www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 93 (4242)**

24 лістапада 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ФАКТ

## Кодэкс не перадалі...

Учора дэпутаты Палаты прадстаўнікоў павінны былі атрымаць праект Кодэкса аб адукацыі, а на 29 лістапада нават былі прызначаны слуханні па новым дакуменце. Але Кодэкс аб адукацыі ў парламент не перадалі.

Паводле думкі дэпутата Алены Анісім, гэта звязана са спрэчнымі рэформамі, якія прапаноўвалі ў Міндукацыі. Ёсць меркаванне, што перадача Кодэкса ў Палату прадстаўнікоў перанесена на нявызначаны тэрмін.

БЛИЦ

21 ноября на совещании по поводу экономической ситуации в 2017 году и планов на 2018-й, в котором приняли участие члены правительства, руководители Нацбанка, облисполкомов и Минского горисполкома, Александр Лукашенко сказал:

*«…Прошу: заземлитесь, соскочите с верхотуры на землю. Люди хотят нормально жить. Вы посмотрите, что у нас пенсионеры имеют, что имеет средний медицинский персонал и даже врачи. На них же страна держится! А мы начинаем тут рассуждать... Где попало – надо сэкономить, но им заработную плату добавить!»*

«Народная Воля» задала ряду экспертов, экономистов, руководителей предприятий вопрос:

## Где и на чем можно сэкономить, чтобы реально поднять благосостояние людей?

**Владислав ЩЕПОВ,**
***кандидат экономических наук, депутат Палаты представителей, председатель постоянной комиссии по экономической политике:***

– Скорее всего, имелось в виду то, насколько эффективно тратятся бюджетные деньги. Это и строительство жилья, и помощь государственным предприятиям, это затраты бюджета на разные государственные закупки, проекты, которые не могут не давать должной отдачи, той, которая планировалась. Вот здесь, наверное, надо экономить.

От каждого бюджетного рубля мы должны получать максимум выгоды.

Но помимо наполнения бюджета очень важно привлекать инвестиции.

**Александр ШАКУТИН,**
***бизнесмен, председатель Совета директоров ОАО «АМКОДОР» – управляющая компания холдинга»:***

– Моя философия такая: не экономить надо, а лучше работать и больше зарабатывать. А мы плохо работаем и при этом начинаем экономить…

Забота о заработной плате, о благосостоянии людей – проблема не государственная – общая. И прежде всего хозяйственников, независимо от формы собственности. Каждый руководитель должен создавать условия, чтобы люди на его предприятии, фирме, заводе работали эффективно и зарабатывали. Чем эффективнее будет работать любой хозяйственный субъект, тем больше он будет платить налогов и тем больше будет возможности у государства выполнить свои социальные обязательства перед людьми, в том числе и перед пенсионерами, врачами, учителями. А основная задача государства – создавать условия для нормальной работы предприятий, чтобы наполнение бюджета было более эффективным.

**– У вашего предприятия получается так работать? Какая на «Амкодоре» средняя зарплата?**

– Более 1000 рублей есть. Мы создаем новые рабочие места, только в этом году открыли два новых завода. Открытие одного уже было, на нем присутствовал Владимир Семашко. Второй, думаю, до конца года тоже официально откроем…

**Александр ЯРОШУК,**
***председатель Белорусского конгресса демократических профсоюзов:***

– Буквально на днях в соцсетях обсуждали, что недавно избранный монгольский президент Халтмаагийн Баттулга не поселился в положенной ему по статусе резиденции, а живет в небольшом доме рядом с работой, на которую ходит пешком. То есть еще экономит на дорогих машинах, потому что обходится без кортежа. Или такой пример аскетизма: невероятно популярный президент Уругвая в 2010–2015 годах Хосе Мухика вообще отказался от государственного дворца, жил в собственном фермерском домике, летал эконом-классом и ездил на стареньком «Фольксвагене». При нем ВВП Уругвая увеличился в 2 раза, сторонники Мухики предлагали ему провести плебисцит и остаться президентом на третий срок. Он отказался, сказал, что не будет ломать Конституцию. Вот это классический пример народного президента, который живет для народа и экономит для народа! И прежде всего начинает с себя.

Может, это не совсем скромно, но я предложил бы и Александру Григорьевичу: начните с себя. Много на чем может сэкономить глава государства. Это будет прекрасный пример для всех.

А чтобы меня не обвинили в популизме, отвечая на ваш вопрос, замечу: на мой взгляд, власти надо уходить от госуправления экономикой, дать больше свободы бизнесу, предпринимателям. И все у нас получится. Экономика должна быть рыночной.

**Дмитрий КРУК,**
***экономист, научный сотрудник исследовательского центра BEROC:***

– Сегодня из бюджета на погашение кредитов, на исполнение гарантий по кредитам убыточных госпредприятий идут достаточно существенные суммы. Если их перенаправить на поддержку низкооплачиваемых бюджетников, тех, кто сталкивается с проблемой безработицы, то это будет вполне адекватным решением в русле бюджетной политики. Тогда действительно можно будет сэкономить средства, которые просто выкидываются впустую, не дают никакого эффекта.

**Анатолий ЗМИТРОВИЧ,**
***предприниматель, г.Светлогорск Гомельской области:***

– Не экономить надо. Надо исправлять ошибки, допущенные еще в 1994 году. Тогда мы выбирали не между Кебичем, Шушкевичем, Позьняком, Лукашенко, а между европейским и азиатским путями развития. Мы пошли в Азию, не с той страной заключили Таможенный союз. И у нас сегодня те же проблемы, что и у России. А в Польше не хватает одного миллиона рабочих рук. Наши водители, строители уже там. Врачи тоже. В Польше среднечасовая оплата труда 7,5 евро. В Беларуси – 2 евро.

**Любовь ХМЕЛЕВСКАЯ,**
***пенсионерка, г.Минск:***

– Я в экономике мало смыслю… Но иногда мне кажется, что и наши руководители недалеко от меня ушли. 20 лет только и говорят нам: экономьте, затяните пояса. И зарплата в 500 долларов – это тоже все время планы на будущее на протяжении последних лет.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПАЛІТЫКА

Андрэа РЫГОНІ:

## «Наша канчатковая мэта – увесці Беларусь у Савет Еўропы»

Парламенцкая Асамблея Савета Еўропы бачыць сваёй задачай набліжэнне Беларусі да каштоўнасцяў Савета Еўропы, заявіў дакладчык ПАСЕ **Андрэа Рыгоні** ў Мінску на сустрэчы з намеснікам старшыні Палаты прадстаўнікоў **Баляславам Пірштуком**.

*“Крокі наперад робяцца ў працэсе размовы, абмену думкамі, дыскусій,* – перакананы Рыгоні. – *А калі кожны сядзіць у сябе дома, маўчыць, глядзіць здалёку, ніякі крок наперад зрабіць немагчыма. І мы бачым сваёй задачай набліжэнне Беларусі да стандартаў і каштоўнасцяў Савета Еўропы». «Наша канчатковая мэта – увесці Беларусь у Савет Еўропы»,* – падкрэсліў прадстаўнік ПАСЕ.

ТЫМ ЧАСАМ...

Андрэй НАВУМОВІЧ:

## Беларусі не варта спяшацца з прыняццем рашэння наконт смяротнай кары

*“Я чую пажаданні і заклікі ў гэтым кірунку, але спяшацца не трэба”*, – сказаў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Андрэй Навумовіч, кіраўнік рабочай групы Нацыянальнага сходу па вывучэнні праблематыкі смяротнай кары як інструмента пакарання.

Беларусь застаецца адзінай еўрапейскай краінай, дзе ўжываюць смяротную кару. Менавіта з гэтай прычыны яна не ўваходзіць у Савет Еўропы – у 1993 годзе беларускі парламент атрымаў статус спецыяльнага запрошанага ў ПАСЕ, у 1997-м быў пазбаўлены яго пасля рэферэндуму, які захаваў смяротную кару. Кожны смяротны прысуд у Беларусі традыцыйна асуджаецца інстытутамі Савета Еўропы.

За апошнія 20 гадоў у Беларусі было пакарана больш за 400 чалавек, толькі адзін з асуджаных да смяротнай кары быў памілаваны Аляксандрам Лукашэнкам.

АНОНС



## Яўстах Сапега:

*“На беларускай зямлі я 83 гады таму нарадзіўся, але як Сапега я тут ужо 500 гадоў. Мы паходзім адсюль. Мае продкі мусілі быць на эміграцыі – у Англіі, у Галіцыі – і вярнуліся сюды. Для мяне гэты край – Айчына, нягледзячы на тое, што я потым апынуўся ў Афрыцы, а тут пазаўчора была Расія, учора – Польшча, а сёння Беларусь. Усе Сапегі, і я ў тым ліку, былі грамадзянамі Вялікага Княства Літоўскага. Мы, Сапегі, чатырыста гадоў змагаліся за незалежнасць свайго Краю, мы не хацелі быць жыхарамі Польскага Каралеўства. Многія мае продкі пахаваны тут, і я мару, каб мой прах прытуліўся ў якім-небудзь сапегаўскім касцёле ў Беларусі”.*

**(Цалкам артыкул «Тры мары князя Сапегі» чытайце на 3-й стар.)**



**Палац Сапегаў у Ружанах. Выгляд у 1990-я гг. і ў 2017-м.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

## Бяздомная літаратура

З першым снегам каля гарбузападобнага гмаху Нацыянальнай бібліятэкі з’явіўся Парк пісьменнікаў. Прычым пасадзілі яго самі літаратары, арганізаваныя прыўладным саюзам пісьменнікаў. Яго нязменны старшыня, Мікалай Чаргінец у інтэрв’ю БТ намаляваў ідылічную карцінку – як пісьменнікі будуць прыходзіць у свой парк, сядзець на лаўках пад дрэвамі і натхнёна пісаць новыя творы.

Над свежапасаджаным паркам лёталі малапрыкметныя на экране белыя мухі, і я ў цёплай кватэры міжволі сцепануў плячыма, уявіўшы сабе творчы працэс у тым падрослым парку.

Вунь пад скалелым клёнам, штохвіліны хукаючы на рукі, Віктар Казько піша новую аповесць, ужо анансаваную маскоўскім часопісам “Дружба народов”.

Вунь пад разлапістай ліпай, затуляючы рукапіс ад дажджавых кропель, похапкам занатоўвае паэтычныя радкі Анатоль Вярцінскі.

Вунь, прытуліўшыся да маладога дубка, адаграvае ў рукавіцах асадку з замерзлым чарнілам Раіса Баравікова (а натхненне ж не чакае!).

Вунь пад задумлівым каштанам правярае на гучанне свае шматзначныя пункціры і вершаказы Алесь Разанаў.

Вунь пры кусце бэзу адчайна затуляе ад ветру белыя ветразі сваіх чарнавікоў рамантычная ў любых умовах Ірына Багдановіч.

А вунь, ходзячы паміж дрэў, вядуць тэмпераментную літаратурную дыскусію гэткія спакойныя ў будзённым жыцці Алесь Наварыч і Андрэй Федарэнка…

Чаму з падказкі Чаргінца мне гэта ўсё жыва ўявілася? Ды таму, што названыя пісьменнікі і сотні іх паплечнікаў на сённяшні дзень сапраўды не маюць прыдатнага памяшкання, каб сустрэцца з сябрамі па цэху, правесці творчую вечарыну ці прэзентаваць новую кнігу.

Бо ў адабраны ва *ўсіх* пісьменнікаў (па рашэнні суда) Дом літаратара дзяржава ўпусціла далёка не *ўсіх* – толькі “чэсных”, ды і то на птушыных правах. Тых, хто ўвайшоў у новы саюз, хуценька арганізаваны Чаргінцом. А яшчэ каля 500 творцаў засталіся “бяздомнымі” – у іх, апрача Дома літаратара, забралі яшчэ і Дом творчасці “Іслач” у лесе пад Ракавам.

Гэтак жа хуценька на пісьменніцкія арганізацыі былі навешаны чорна-белыя ярлыкі, маўляў, адзін саюз пісьменнікаў – дзяржаўны, а другі – апазіцыйны. Але ж абодва саюзы – аднолькава прызнаныя Мінюстам грамадскія арганізацыі, у абодвух – прыкладна па паўтысячы сяброў.

З юрыдычнага гледзішча Саюз пісьменнікаў Беларусі і Саюз беларускіх пісьменнікаў – абсалютна раўнапраўныя. Раўнапраўнымі яны мусілі б быць і ў трохпавярховым (!) будынку ў цэнтры сталіцы, на якім па-ранейшаму вісіць шыльда “Дом літаратара” (згаданая “Іслач” даўно пушчана дзяржавай з малатка, там гаспадараць нейкія ўвішныя прадпрымальнікі).

Скажам, займае Мікалай Чаргінец са сваёй камандай адзін паверх у тым Доме літаратара. А чаму другі паверх не аддаць Барысу Пятровічу з яго камандай? Хай бы два саюзы суіснавалі паралельна, канкурыравалі паміж сабой – на карысць роднай літаратуры. Каму ад гэтага была б шкода?

Але слабейшы заўсёды баіцца канкурэнтаў. Таму творцаў з СБП да Дома літаратара сёння і на гарматны стрэл не падпускаюць. Зрэшты, і гарматы змаўкаюць, калі гавораць грошы. За грошы вам там дадуць любую залу, не правяраючы, з якога вы саюза.

Што праўда, беларускія пісьменнікі даўно сталі жабракамі, таму і ладзілі свае творчыя вечарыны нашы класікі – Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч і Генадзь Бураўкін – хто ў касцёле, хто ў мастацкай галерэі, хто ў цеснай прыватнай кнігарні. Таму і сёння іх “аднасаюзаўцы” туляцца на здымнай кватэры, перад кожнай вечарынай ці прэзентацыяй ламаючы галаву, дзе знайсці адпаведнае памяшканне.

Даходзіць часам да абсурду. Адзін са сталічных літаратурных музеяў быў змушаны накіраваць паэтычны зборнік аўтара гэтых радкоў на літаратуразнаўчую экспертызу – у Акадэмію навук! Адтуль прыслалі водгук – на пяці старонках, ды такі, што хоць Нобелеўскую прэмію давай. Давялося дазволіць прэзентацыю. Але за кожным разам не будзеш тузаць тую акадэмію.

Мікалай Чаргінец у адным з нядаўніх інтэрв’ю заявіў: “Лічу, што пісьменнікі ў Беларусі знаходзяцца ў лепшым становішчы, чым у іншых краінах”. Прабачце, але ні ў Кіеве, ні ў Вільнюсе, ні ў Маскве пісьменнікаў не выганялі на вуліцу. Як мелі яны за савецкім часам свае дамы літаратара, так і маюць. Найскладаней сёння жывецца Украіне, але і там у галаву нікому не прыйшло адбіраць пісьменніцкі асабняк на прэстыжнай вуліцы Банкавай ці Дом творчасці “Ірпень”. Усё там функцыянуе-дзейнічае, і ўлада не дзеліць творцаў на сваіх і чужых.

Неяк пасля традыцыйнага прэс-тура па беларускіх гарадах і весях адна расійская журналістка пацікавілася ў кіраўніка Беларусі: “А где же ваши писатели, Александр Григорьевич?” То бок і камбайнераў яна пабачыла, і даярак, і машынабудаўнікоў, а майстроў пяра – не.

І Аляксандр Рыгоравіч, уздыхнуўшы, патлумачыў, што за апошняе дзесяцігоддзе ў айчыннай літаратуры нічога вартаснага, на жаль, не з’явілася, так што няма патрэбы кагосьці заўважаць і ўслаўляць.

Як жа так? Паводле слоў таго ж Чаргінца, яго падапечныя толькі з 2011-га па 2016 год выдалі аж 1757 новых кніг. Тысячу сямсот пяцьдзясят сем! І – ніводнай вартаснай?! То каму патрэбны такі Саюз пісьменнікаў, які змарнаваў на сумнеўныя кніжкі сотні тон паперы і мільёны бюджэтных рублёў? Хіба толькі самому старшыні – дзеля прыробку да генеральскай пенсіі.

Прызнацца, я не падлічваў, колькі кніг за той жа перыяд выдалі паэты і празаікі з “бяздомнага” Саюза пісьменнікаў. Проста паспрабую наўскідку назваць іхнія творы, вартыя і найвышэйшых дзяржпрэмій, і шматлюдных прэзентацый у дзяржбібліятэках, і перавыданняў у дзяржвыдавецтвах: “Час збіраць косці” Віктара Казько, “Толькі вершы” Уладзіміра Някляева, “Рыбін горад” Наталкі Бабінай, “Назаві сына Канстанцінам” Леаніда Дайнекі, “Любіць ноч – права пацукоў” Юрыя Станкевіча, “Мастак і парабкі” Віктара Карамазава, “Пчала пачала паломнічаць” Алеся Разанава, “Танцы над горадам” Уладзіміра Арлова, “Беларусалім” Паўла Севярынца, “Маё невымаўля” Насты Кудасавай…

Я назваў дзесяць кніг. А мог бы назваць трыццаць ці пяцьдзясят. Выдадзеных мізэрнымі накладамі, прэзентаваных дзе заўгодна (нават у лесе), але – высокамастацкіх, якія ёсць і застануцца як узоры таленавітай творчасці. А яшчэ – як паказчыкі жывучасці беларускай літаратуры, якая хоць і стала ў роднай дзяржаве бяздомнай, але на шалях вечнасці пераважыць сотні і тысячы тых мёртванароджаных тамоў, якія фігуруюць сёння ў псеўдабадзёрых справаздачах літаратурных начальнікаў.

ПАД ГРАДУСАМ

## Пацяплее...

Першыя маразы зменяцца кароткачасовымі дажджамі, ападкі чакаюцца ў выхадныя.

Тэмпература паветра ў суботу максімальная днём 0...+6°C, у паўднёва-заходніх раёнах +7…+9°C. У нядзелю ноччу -1…+5°C, максімальная днём +2…+8°C.

АКТУАЛЬНА

## Бізнесу стане лепш?

Учора, 23 лістапада, Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт «Аб развіцці прадпрымальніцтва», які, паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы, з’яўляецца ключавым дакументам з пакета нарматыўных прававых актаў па паляпшэнні бізнес-клімату ў краіне.

Што прадугледжваецца дэкрэтам?

– Уводзіцца паведамляльны (апавяшчэнне ў выканкам праз службу «адно акно») парадак ажыццяўлення найбольш распаўсюджаных відаў эканамічнай дзейнасці. Гэта бытавыя, турыстычныя, сацыяльныя паслугі, дзейнасць у сферы гандлю і грамадскага харчавання, перавозак пасажыраў і багажу, вытворчасць прадукцыі, будматэрыялаў і іншыя распаўсюджаныя віды дзейнасці. Такім чынам, дзеянне дакумента ахоплівае сферы, у якіх засяроджана каля 95% малога і сярэдняга бізнесу.

– Дэкрэтам зацверджаны агульныя патрабаванні пажарнай бяспекі, санітарна-эпідэміялагічныя патрабаванні, патрабаванні ў галіне аховы навакольнага асяроддзя і ветэрынары да размяшчэння, прыстасавання, абсталявання, утрымання і эксплуатацыі капітальных пабудоў, ізаляваных памяшканняў. Гэтыя патрабаванні максімальна сістэматызаваны і скарочаны. Яны будуць з’яўляцца абавязковымі для выканання ўсімі суб’ектамі пры ажыццяўленні эканамічнай дзейнасці.

– Дэкрэтам максімальна ліквідуюцца адміністрацыйныя бар’еры. Так, прадпрыемствам сферы гандлю і грамадскага харчавання не трэба будзе звяртацца ў выканкамы па ўзгадненне рэжыму працы крам, рэстаранаў і кафэ. Выключэнне зроблена толькі для ўстаноў, якія працуюць у начны час (з 23 да 7 гадзін). У сферы транспартнай дзейнасці сыходзіць у мінулае абавязковае патрабаванне аб афармленні дарожных лістоў для перавозак пасажыраў і багажу ў нерэгулярных зносінах.

– Адначасова дэкрэт устанаўлівае адміністрацыйную адказнасць кіраўніка за забеспячэнне нармальнай працы прадпрыемства. У прыватнасці, за непрыняцце ім неабходных мер па належнай арганізацыі дзейнасці прадпрыемства, якое пацягнула шкодныя наступствы, калі няма прыкмет злачынства ці іншага адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжаны штраф ад 10 да 200 базавых велічынь.

Гэтая мера заклікана на фоне лібералізацыі патрабаванняў павысіць адказнасць бізнесу за сваю дзейнасць перад грамадствам і дзяржавай.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

СУСТРЭЧЫ

# Не памірай, Крупка!

Сябры ехалі па сваіх справах у Лельчыцы і, ведаючы маю прагу да вандровак, прапанавалі сесці ў машыну. Адразу ўзгадаліся барадулінскія радкі, вычытаныя яшчэ ў студэнцкія гады:

*Пускай свабодна лейцы,*
*Пэгаса распражы –*
*Навошта каля Лельчыц*
*І лейцы, і гужы?*

*Ласі далёка трубяць,*
*Мядзведзь ілбом у борць,*
*Бабах*
*і ў рэчку Убарць*
*Ахаладацца – боўць.*

Пра тыя часы, калі Рыгор Барадулін пісаў гэты верш, адзін са знаёмых гаварыў так:

– У лясах – поўна грыбоў і ягад. За дзень можна было нарэзаць кілаграмаў пяцьдзясят лісічак, іх ахвотна куплялі нарыхтоўшчыкі, і ў бліжэйшых гарадах на базарах яны ішлі са свістам. Прыбытковым быў і збор журавін. Мех балотнай ягады прадавалі за чатыры сотні рублёў. Гэта пры месячным заробку ў 150 рублёў. У рэках рыбы вадзілася столькі, што спрактыкаваныя юнакі лёгка лавілі яе рукамі. Не было нічога дзіўнага, што некаторыя гаспадары нават свіней кармілі рыбай.

### Што было, тое сплыло

Перад паездкай знайшоў у сеціве звесткі, што рэчка Убарць, якую ўзгадваў Барадулін, сапсавана дзвюма дамбамі.

Моцна змяніліся краявіды: заліўныя лугі, азёры, лясы – не пазнаць. Там, дзе чалавек раней карміўся сам і нарыхтоўваў кармы для жывёлы, перасохлыя раўніны, пясчаныя барханы.

Нямала прыкладаў, як знікаюць альбо ўжо зусім зніклі вёскі. У Буйнавічах, што па дарозе з Мазыра ў Лельчыцы, мы ўбачылі пустую школу, для якой ужо не знайшлося вучняў. І гэта не захудалае збудаванне, а, лічы, сучасны вучэбны комплекс.

– А там, – махнуў рукой у бок гаваркі вясковец, які назваўся проста Сяргеем, – пусты, разрабаваны вайсковы гарадок. Ёсць такія паселішчы, што ўжо зараслі лесам, а ў некаторых толькі па адным-два чалавекі жывуць.

Канешне, можна колькі заўгодна войкаць і бедаваць (дзе ж тое, што раней было!), але хацелася знайсці прыкметы чаго-небудзь больш-менш аптымістычнага.

– Калі так, – пачухаў Сяргей пераноссе, – загляніце ў вёску Крупка, яна недалёка, уваходзіць у наш сельсавет. Там вы нават казахскія юрты можаце пабачыць.

### І Міхаіл Іванавіч пакляўся…

Сяргей не падмануў нас. У невялікай вёсцы Крупка сапраўды лёгка знайсці аграсядзібу, за высокім плотам якой бялеюць вярхушкі сярэднеазіяцкіх юрт. Як яны там з’явіліся? Ураджэнка гэтых мясцін Любоў Адамаўна Канеева ўсё жыццё пражыла ў Казахстане, але аднойчы яе моцна пацягнула ў родны край. Вярнуўшыся ў Беларусь, энергічна ўзялася за справу, абсталявала аграсядзібу і зараз узмоцнена рэкламуе турыстычны адпачынак у ёй.

На жаль, з самой гаспадыняй убачыцца не давялося. Вароты былі зачынены, на наш стук ніхто не адгукнуўся. Мы і не змаглі даведацца, наколькі паспяховы агратурызм у лельчыцкай глыбінцы. Адно відавочна: гаспадыня не губляе аптымізму, яна купіла ў гэтай жа вёсачцы некалькі сядзіб, абгарадзіла іх высокім жалезабетонным плотам, значыцца, ёсць у яе новыя праекты.

У вёсцы Крупка пашчасціла сустрэцца яшчэ з адным чалавекам, які зараз траціць нямала сродкаў і энергіі, каб не даць роднаму паселішчу згінуць.

Міхаіл Іванавіч Марціновіч – жыхар Мінска, але большасць часу зараз знаходзіцца ў Крупцы.

– Мае бацькі, – распавядае ён, – вучыліся ў Мазырскім педагагічным інстытуце. Сюды прыехалі па размеркаванні яшчэ нежанатымі, нават знаёмы не былі. Бацька Іван Мікітавіч упадабаў каляжанку Ганну Дзмітрыеўну, і папрасіў раённае начальства накіраваць іх у адну школу.

У той час пад школу выдзелілі ацалелую баню, лепшага нічога не засталося, вёску фашысты спалілі.

Бацьку прызначылі дырэктарам, і на яго плечы ляглі клопаты па будаўніцтве новай школы. Яна была пачатковай, але прасторнай, цаглянай, са светлымі класамі. Упрыгожыла адноўленую Крупку. Ішлі гады, і бацьку за педагагічныя заслугі прысвоілі званне заслужанага настаўніка БССР.

Але ў 1996 годзе школу вымушаны былі закрыць – засталося толькі пяць вучняў. Мяне гэты працэс вымірання вёскі моцна ўразіў. Справа, якой усё жыццё займаліся бацькі, усё роўна як абарвалася, згубіла сваю каштоўнасць. Вёску пачалі руйнаваць. Разбурылі і закапалі ў яму парэшткі вясковага клуба, зліквідавалі малочную ферму, закрылі гаспадарчы двор. Я ўгаворваў аднавяскоўцаў, мясцовыя ўлады: давайце правядзём суботнік, адзін раз, другі, трэці, не дадзім знікнуць хаця б клубу… Нічога з маіх заклікаў не атрымалася.

У выніку цэлай засталася толькі будыніна школы. Я сам сабе пакляўся, што напружу ўсе сілы, каб захаваць яе, каб не даць знікнуць вёсцы Крупка.

Спачатку вырашылі абсталяваць новую студню. Каб была чыстая вада для ўсіх. На нашай вуліцы былі дзве старыя, але, на вялікі жаль, за парканам, адгароджаныя, куды без гаспадарскага дазволу не зойдзеш. Такая вось праява хутарской псіхалогіі.

Карацей, з дапамогай сельсавета вырылі і абсталявалі новую студню з вельмі смачнай вадой. Зараз усе чэрпаюць ваду з яе.

### Зацвітуць яго сады

– Каб падтрымліваць у парадку бацькоўскую сядзібу і захаваць будынак школы, я вырашыў усур’ёз заняцца фермерскай гаспадаркай. Праўда, у райцэнтры мне нібы цэбар халоднай вады на галаву вылілі, – працягвае расказ Міхаіл Іванавіч Марціновіч. – Лішняй зямлі ў раёне для вас няма і не будзе ў бліжэйшай будучыні!

Адказ тагачаснага кіраўніка райвыканкама Капыткова быў настолькі катэгарычным, што можна было кінуцца ў роспач. Але я ўтрымаўся. Мы вырашылі рабіць тое, што можна без асаблівага дазволу. Дамаўляліся з нашчадкамі занядбаных сядзіб, выкарчоўвалі старыя сады. Дзе трактарам, дзе ўручную. Калі рэгіструешся ў вёсцы для пражывання, то дазваляецца апрацоўваць да трох гектараў зямлі.

Наводзіць парадак у вёсцы цяпер нам моцна дапамагае старшыня райсавета дэпутатаў Вольга Мікалаеўна Даўгалявец, старшыня Буйнавіцкага сельсавета Тамара Мікалаеўна Бялоцкая, мясцовыя жыхары. Хаця вёску ў свой час назвалі неперспектыўнай, яны вырашылі дапамагаць нам, бо ўбачылі, што ёсць на каго абаперціся, і Крупка яшчэ доўга будзе жыць.

З цягам часу зразумеў, што весці фактычна фермерскую гаспадарку без належнага юрыдычнага статусу цяжка. На шчасце, мае прапановы адобрыў новы старшыня райвыканкама Міхаіл Васільевіч Камок. Ён дапамог выдзеліць у распараджэнне сялянскай фермерскай гаспадаркі пяць гектараў зямлі.

Цяжэй атрымлівалася з афармленнем будынка школы. Зруйнаваць і закапаць яго можна без перашкод, а выкарыстоўваць на гаспадарчыя патрэбы не дазвалялі нейкія правілы.

Давялося былую школу, якую некалі пабудаваў мой бацька, купляць праз тэндэр. На маё шчасце, гаспадыня аграсядзібы з казахскімі юртамі сказала, што ёй школа не патрэбна, яна мне не канкурэнт.

Зараз распрацоўваю праект, якім чынам даць новае жыццё былой школе, каб там абавязкова быў мемарыяльны пакой з матэрыяламі аб былых настаўніках, аб вёсцы і вяскоўцах.

Галоўная мая мэта – захаваць школу, для мяне яна мае і матэрыяльны і духоўны сэнс.

Але на ўсё, як кажуць, патрэбны грошы. Таму на атрыманай зямлі я з роднымі пачаў вырошчваць маліну. Заклалі пітомнік, саджанцы для яго набылі ў суседняй Украіне.


Міхаіл Іванавіч Марціновіч.

Рэальна з трох гектараў ужо сабралі ўраджай. Прадавалі ягады на базары ў Мазыры, дамаўляліся з буйнымі крамамі.

Увогуле, лічу, што ў нашых мясцінах, дзе ў лясах сустракаюцца плямы радыеактыўнага забруджвання, трэба рабіць стаўку на культурныя сады і ягаднікі. Цікаўлюся таксама закладкай грушавага саду, бо гэтых смачных пладоў не хапае.

Міхаіл Іванавіч на хвіліну змаўкае, задумваецца, а затым працягвае аповед:

– Вядома ж, не ўсё ў нас ідылічна. Многа чаго не хапае. Патрэбна лепшая дарога ў вёску. Абяцанне ўлад яе адрамантаваць было, але нешта перашкодзіла зрабіць гэта, мабыць, з бюджэтам нявыкрутка.

Мяне, як жыхара вёскі, хвалюе і праблема нашага возера. Афіцыйна яно называецца сажалка №3. Гэта фактычна вадасховішча, утворанае падчас татальнай меліярацыі для збору лішкаў вады з двух балот. Зараз яно без гаспадара. У свой час сажалку арандаваў Аляксандр Гусеў. Пры ім там вадзілася рыба, але па нейкай прычыне арэнду прыпынілі.

Возера перайшло ў распараджэнне мясцовага бізнесмена, які найперш вылавіў усю рыбу, і пераканаўшыся, што там ужо нічога, апроч вады, няма, адмовіўся ад яго. А гэта 14 гектараў воднага люстэрка, якое павінна прыносіць карысць. Возера зарастае. Прадпрыемства меліяратыўных сетак вырашыла, што яму нявыгадна займацца яго рэканструкцыяй.

### «Гэта часцінка нашай Радзімы…»

– У гэтым годзе ўдалося правесці свята вёскі. Кінулі кліч усім ураджэнцам Крупкі. Сабралася чалавек трыццаць.

Спачатку звярнуліся да гаспадыні аграсядзібы з юртамі, але яна нас сустрэла без сантыментаў: плаціце па прэйскуранце – і гуляйце! Няма грошай – вазьміце крэдыт!

Але адкуль у людзей грошы?! Выйсце знайшлі. Падрыхтавалі к прыезду аднавяскоўцаў пляцоўку ў былым школьным двары. Сустрэча з бясконцымі размовамі, успамінамі атрымалася вельмі цікавай, карыснай.

Стварылі аргкамітэт, які будзе займацца арганізацыйнымі пытаннямі ў будучым.

Крупка – для нас не проста кропка на карце, гэта часцінка нашай радзімы, і нам хочацца, каб яна не памірала.

***

Хочацца верыць, што пакуль у вёсцы Крупка Лельчыцкага раёна будуць жыць такія людзі, як Міхаіл Іванавіч Марціновіч, яна не знікне з карты Беларусі.

**Мікалай ЗЯНЕВІЧ.**
*Мінск–Лельчыцы–Мінск.*


На свяце вёскі.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Вадзім Лабковіч прадае «кандытарку», Аляксей Шыдлоўскі – менеджар гатэля

*“Народная Воля” пацікавілася, як склаўся лёс фігурантаў палітычнай справы 20-гадовай даўніны.*

У 1997 годзе крымінальная справа маладзёжных актывістаў **Аляксея Шыдлоўскага** і **Вадзіма Лабковіча** стала адной з першых, якая мела палітычны падтэкст. Хлопцаў асудзілі за тое, што на будынку райвыканкама ў Стоўбцах яны напісалі графіці “Жыве Беларусь!” і “Пазьняк – наш прэзідэнт”.

У лютым 1998 года Шыдлоўскі быў асуджаны на паўтара года пазбаўлення волі па абвінавачванні ў злосным хуліганстве, прысуд Лабковічу быў – паўтара года зняволення з адтэрміноўкай на два гады.

Чым зараз займаюцца былыя актывісты?

*“Пра сябе асабліва распавядаць няма чаго,* – кажа **Вадзім ЛАБКОВІЧ**. – *Пра старую крымінальную справу амаль не ўспамінаю, бо прайшло вельмі шмат часу і гэта ўжо далёкая гісторыя. А зараз больш дбаю пра сваю працу і сям’ю... Працую індывідуальным прадпрымальнікам, маю дзве невялікія крамы па продажы кандытарскіх вырабаў. А вось у нейкіх палітычных працэсах актыўнага ўдзелу ўжо не прымаю”.*


1998 год. Суд над Вадзімам Лабковічам (злева) і Аляксеем Шыдлоўскім.

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ** сёння жыве і працуе ў Празе. Ён быў вымушаны прасіць палітычнага прытулку ў Чэхіі, пасля таго як у Беларусі ў дачыненні да яго напрыканцы 2007 года была ўзбуджана яшчэ адна крымінальная справа па ч.3 арт.339 Крымінальнага кодэкса (хуліганства), якая прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі да 10 гадоў. Справа была распачата пасля бойкі ў краме, нагодай для якой стала сварка з прадаўцом з-за партрэта Аляксандра Лукашэнкі.

*“Найбольш складана давялося за мяжой адразу пасля вымушанай эміграцыі,* – распавядае Аляксей. – *Трэба было ўсё пачынаць з чыстага ліста, не ведаючы ні мовы, ні людзей. Сродкаў, якія былі з сабой, хапіла толькі на некалькі месяцаў жыцця ў Чэхіі – разам з жонкай мы іх патрацілі на аплату жылля. А мне першы час давялося займацца самай разнастайнай працай. Такой, на якую мясцовыя жыхары згаджаюцца ад безвыходнасці. Больш працаваў рукамі – грузчыкам на розных фабрыках і камбінатах. Па шчырасці, для таго, каб застацца і замацавацца ў Чэхіі, іншага выйсця не было”.*

Пазней Аляксей Шыдлоўскі разам з жонкай сталі ўдзельнікамі спецыяльнай васьмігадовай праграмы, якая разлічана на эмігрантаў. Гэта давала магчымасць удасканальваць чэшскую мову на спецыяльных курсах. Да таго ж дзякуючы гэтай праграме аплачвалася частка сумы за арэнду кватэры, якую здымала сям’я.


Сям’я Аляксея Шыдлоўскага.

– Давялося папрацаваць у Празе прадаўцом сувеніраў, затым быў загадчыкам магазіна, – распавядае “Народнай Волі” Аляксей. – Але з-за 6-гадовага сына пайшоў у гатэль на працу начнога менеджара. Днём маю вольны час, каб вазіць яго на хакейныя трэніроўкі.

**– У бытавым плане ўжо стала лягчэй?**

– Шчыра кажучы, кошты на кватэры ў Празе проста касмічныя – даводзіцца арандаваць двухпакаёўку за 500 еўра ў месяц. Праўда, у Мінску здаём кватэру за 200 еўра, таму гэтыя грошы крыху кампенсуюць траты на жыллё. А на іпатэку мы не маем права, бо пакуль у нас няма чэшскага грамадзянства.

**– Вы да гэтага часу грамадзянін Беларусі?**

– Так, але беларускага пашпарта ў мяне няма. Ёсць так званы “пашпарт уцекача”, які дазваляе ўезд толькі ў краіны шэнгенскай зоны. Яшчэ два гады трэба чакаць, каб падаць дакументы на атрыманне чэшскага грамадзянства, і затым не выключана, што пытанне вырашыцца для мяне станоўча. Дарэчы, у Чэхіі дазволена падвоенае грамадзянства, таму, нават калі стану грамадзянінам Чэхіі, ад беларускага я не буду адмаўляцца.

**– Не збіраецеся вярнуцца дадому?**

– Апошні раз быў у Мінску ў снежні 2007 года. Паводле інфармацыі праваабаронцаў, мая крымінальная справа не закрыта, а прыпынена. Тэрмін даўніны па ёй, здаецца, 15 гадоў. Таму, калі вырашу завітаць дадому, не выключана, што затрымаюся ў Беларусі на некалькі гадоў. Хаця пазней, безумоўна, вярнуся. Гэта адназначна…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## Для нецвярозых дэбашыраў свой ізалятар

Такая ўстанова запрацавала ў Гродне. Ізалятар разлічаны на 11 чалавек. Сюды трапляюць проста аматары выпіць, а таксама тыя, хто ў нецвярозым выглядзе здзейсніў адміністрацыйнае правапарушэнне: дробнае хуліганства, дробны крадзеж, непадпарадкаванне супрацоўніку міліцыі, сямейны скандал.

Супрацоўнікі ўстановы кажуць, што напаўняльнасць тут практычна стопрацэнтная.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Мінгарсуд не задаволіў скаргу Някляева

У Мінскім гарадскім судзе разгледжана скарга паэта і грамадскага дзеяча Уладзіміра Някляева на прысуд за нібыта заклікі да «Маршу абураных беларусаў 2.0».

На гэта суддзі **Максіму Лабко** спатрэбілася зусім мала часу.

Вырак: пастанова Ленінскага суда г.Мінска застаецца ў сіле.

Як стала вядома, Уладзімір Някляеў мае намер звярнуцца з апеляцыйнай скаргай у Вярхоўны суд.

СУМНА...

## Нават не паглядзеў у вочы

Быў пазаўчора ў Мінскім гарадскім судзе, які нібыта разглядаў касацыйную скаргу Уладзіміра Някляева на вырак Ленінскага суда – кінуць найлепшага сёння паэта Беларусі за краты. «Пачакайце, – сказаў Някляеў, калі суддзя адчыніў дзеры ў так званы дарадчы пакой, – я хацеў яшчэ...» Суддзя нават не павярнуўся, дзверы зачыніліся.

Амаль паўгадзіны ўсе, хто прыйшоў падтрымаць Някляева (на жаль, мала, вельмі мала знайшлося такіх, вось вам беларуская «салідарнасць»!), чакалі рашэння, якое, як падавалася, павінна было стаць адназначна станоўчым, – адмяніць беспадстаўны вырак і закрыць справу. Настолькі пераканаўчымі былі аргументы і доказы, якія выклалі Някляеў і яго абаронца, і якія, як мне здалося, суддзя ўважліва выслухаў з выглядам разумеючага, пры гэтым не задаўшы ні адзінага пытання.

Не ведаю, з кім раіўся ён у дарадчым пакоі, але, я думаю, толькі не з законам, хай нават з такім, якім сёння ён ёсць, і не з уласным сумленнем. Зрэшты, сёння цяжка спадзявацца на сумленне суддзяў…

І чалавек у мантыі, не падымаючы вачэй, вярнуўшыся з дарадчага пакоя, прамовіў: «Оставить без изменений...»

Павярнуўся і пайшоў.

– Пачакайце! – ізноў паклікаў Някляеў, шкадуючы, як мне падалося, яго за тое, што ён згубіў сумленне. Але той ізноў не павярнуўся. Бо павярнуцца – гэта паглядзець у вочы.

У вочы не толькі ні ў чым не вінаватаму чалавеку.

У вочы не толькі чалавеку на восьмым дзясятку жыцця, хвораму на пагражаючыя жыццю хваробы.

У вочы не толькі Паэту.

Насамрэч – у вочы Беларусі і яе народу. Бо –

*Паэт жывы, пакуль жывы Народ.*
*Народ жывы, пакуль Паэты жывы...*

Але народ чамусьці заплюшчыў вочы. Пакуль...

**Сяргей ВАГАНАЎ,**
**член Саюза беларускіх пісьменнікаў, сябра ПЭН-цэнтра.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Беларус атрымаў прэстыжную французскую ўзнагароду

*Ганаровы консул Францыі ў Брэсце Леанід Стаецкі днямі атрымаў нацыянальны французскі ордэн “За заслугі” з рук Пасла Францыі ў Беларусі Дыдзье Канеса.*

Ордэн «За заслугі» з’яўляецца чацвёртай па значнасці ўзнагародай Францыі пасля ордэна Ганаровага легіёна, ордэна Вызвалення і Ваеннага медаля. Заснаваны 3 снежня 1963 года прэзідэнтам дэ Голем, мае пяць ступеняў – кавалера (шэвалье), афіцэра, камандора, Вялікага афіцэра, Кавалера Вялікага крыжа.

Варта адзначыць, што намінацыя Стаецкага на ордэн была ажыццёўлена яшчэ тады, калі прэзідэнтам Францыі быў Франсуа Аланд.

Дарэчы, Леанід Уладзіміравіч быў Ганаровым консулам пры чатырох амбасадарах і трох прэзідэнтах: Сарказі, Аландзе і Макроне.



Пасол Францыі ў Беларусі Дыдзье Канес адзначыў, што падставай для прысуджэння ордэна сталі як дыпламатычныя, так і асабістыя заслугі Леаніда Стаецкага перад французскай дзяржавай.

Леанід Стаецкі – ганаровы консул Францыі ў Брэсце, бізнесмен, дырэктар ТДА «Западгазсервис».

Скончыў СШ № 1Брэста (першы фізіка-матэматычны выпуск) і фізмат Брэсцкага педінстытута. Выкладаў за мяжой.

**Вера ВІР.**

ГІСТАРЫЧНЫЯ ПОСТАЦІ

# Тры мары князя Сапегі

Калі на мяжы стагоддзяў у дзярэчынскім касцёле на Зэльвеншчыне ўсталёўвалася памятная дошка ўдзельніку паўстання 1830–1831 гадоў Яўстаху Каятану Сапегу (1797–1860), мы з сябрамі даведаліся, што ў далёкай Кеніі жыве яго праўнук. І хоць нашчадку слаўнага роду ішоў ужо дзявяты дзясятак, а паміж Мінскам і Найробі каля сямі тысяч кіламетраў, было вырашана запрасіць шаноўнага госця з Афрыкі на ўрачыстае асвячэнне дошкі. Хутчэй дзеля прыліку, бо хто ж у восемдзесят тры гады адважыцца на такое рызыкоўнае падарожжа? Паслалі тэлеграму і забыліся. На дзіва, князь Яўстах Севярын Сапега (з той самай галіны роду, што і канцлер Леў) згадзіўся прыехаць, і неўзабаве мы сустракалі на чыгуначным вакзале ў Гродне яго разам з доктарам гісторыі Марыяй Каламайскай-Саед з Варшавы, куды афрыканскі госць дабіраўся самалётам з трыма перасадкамі.

Апошні пазасталы ў жывых прадстаўнік ружанска-дзярэчынскай лініі Сапегаў аказаўся дасведчаным сапегазнаўцам – мы слухалі ягоныя аповеды затаіўшы дыханне. Пра тое, як расійскія ўлады разрабавалі Дзярэчын у 1831 годзе, вывезшы ў Пецярбург больш за 200 скрыняў з фамільнымі каштоўнасцямі (у тым ліку вялізны залаты кубак з гербам князёў Шуйскіх, гетманскія рэгаліі Льва Сапегі, аздобленую дыяментамі шаблю канцлера Аляксандра Міхала). Пра тое, як яго выгнаны з Айчыны прадзед па мянушцы Паўстанец, жывучы на горкім эміграцкім хлебе, рыхтаваў у Парыжы новае паўстанне ў забраным Краі, але яму не суджана было дажыць да 1863 года. Пра тое, як бацька князя ў 1939 годзе прадказальна трапіў на Лубянку і некалькі месяцаў правёў у камеры смяротнікаў. Пра тое, як сам князь ваяваў, трапіў у палон, а потым, каб пракарміць сям’ю, стаў паляўнічым у Афрыцы і паміж выездамі на сафары пры газніцы ў намёце пад ільвінае рыканне пісаў гісторыю свайго славутага роду.

Адпачыўшы ў Гродне, на другі дзень Яўстах Севярын Сапега паехаў з намі ў Дзярэчын. Папярэджаныя аб візіце дзярэчынцы вялікай грамадой сустрэлі князя хлебам-соллю на даматканым ручніку. Адмыслова на ўрачыстасць прыехаў біскуп Аляксандр Кашкевіч, які пасля імшы ў касцёле і асвячэння дошкі звярнуўся да шаноўнага госця з прывітальнай прамовай. А калі расчулены да слёз Яўстах Севярын пакідаў Дзярэчын, на вежы развітальна бомкнуў старадаўні звон (адліты, як мы пазней даведаліся, у 1717 годзе). “Ён пазнаў мяне!” – эмацыйна ўсклікнуў князь і папрасіў запісаць тыя гукі на дыктафон.

У Гродне ў гасцінным доме прадпрымальніка Валянціна Дубатоўкі (фундатара тае дошкі) князь ледзь не за кожным тостам прасіў паўтарыць голас звона і неяк замілавана паглядаў на мой, яшчэ плёначны, дыктафон. Скарыстаўшыся тым замілаваннем, я запісаў тады з князем вялікую гутарку, з якой прывяду тут два кароткія фрагменты.

Яўстах Севярын прыгадваў: “На беларускай зямлі я 83 гады таму нарадзіўся, але як Сапега я тут ужо 500 гадоў. Мы паходзім адсюль. Мае продкі мусілі быць на эміграцыі – у Англіі, у Галіцыі – і вярнуліся сюды. Для мяне гэты край – Айчына, нягледзячы на тое, што я потым апынуўся ў Афрыцы, а тут пазаўчора была Расія, учора – Польшча, а сёння Беларусь. Усе Сапегі, і я ў тым ліку, былі грамадзянамі Вялікага Княства Літоўскага. Мы, Сапегі, чатырыста гадоў змагаліся за незалежнасць свайго Краю, мы не хацелі быць жыхарамі Польскага Каралеўства. Многія мае продкі пахаваны тут, і я мару, каб мой прах прытуліўся ў якім-небудзь сапегаўскім касцёле ў Беларусі”.



**Сустрэча ў Дзярэчыне. Валянцін Дубатоўка, Міхась Скобла, Яўстах Севярын Сапега, Мікола Дзябёла. 1999 год.**

**Вокладка кнігі “Гісторыя Сапегаў”.**

Я запытаўся, ці вярнуўся б князь на радзіму, калі б яму вярнулі былыя ўладанні – як гэта зроблена, напрыклад, у краінах Балтыі. Сапега ўздыхнуў: “Мы ўсё страцілі пасля паўстання ў 1831 годзе. На сто гадоў забралі, але ў 1933-м вярнулі. Пасля вайны зноў забралі. Вядома, калі б цяпер я мог вярнуць сваю зямлю, то зрабіў бы гэта з прыемнасцю. Ружаны існуюць, Дзярэчын існуе. Каб вярнулі... Але хадзіць і прасіць ці купляць, кажучы, што маю на гэта грошы, я не хачу. Усё тут моцна змянілася. Адзінае, што засталося без змен, – гэта зямля і лес. Разумееце, каля Ружанаў яшчэ расце наш лес! Я ў Афрыцы дваццаць гадоў быў прафесійным паляўнічым, і мне прыемна было б папаляваць у сваім лесе. Але, кажуць, трэба пісаць ліст Лукашэнку, каб дазволіў. Сваёй сястры, якая жыве ў Лондане, я хацеў завезці хоць кавалачак цагліны ад нашага дзярэчынскага маёнтка. І – не знайшоў, нічога не засталося”.

Спрабуючы развеяць тугу князя, мы прапанавалі праехацца па Беларусі, каб пабачыць тое, “што засталося”. І – неабачліва ўключылі ў маршрут радзівілаўскі Нясвіж. Яўстах Севярын рашуча адмовіўся туды ехаць і патлумачыў, што калі яны, Сапегі, змагаліся за Айчыну, Радзівілы пілі гарэлку і каталіся на мядзведзях... А вось у Ружаны шаноўны госць паехаў з радасцю, доўга блукаў паміж зруйнаванымі крыламі фамільнага палаца і прызнаўся, што пачуваўся б шчаслівым, калі б яго ўдалося аднавіць.

Пакідаючы Беларусь, Сапега падараваў нам выдадзены ў Варшаве важкі фаліянт на польскай мове “Dom Sapieżyński” з гэткім надпісам: “Спадарам Валянціну Дубатоўку і Міхалу Скоблу на памяць пра мілае спатканне ў новым Гродне і з пажаданнем поспеху ў працы над гісторыяй Дзярэчына”. І на словах дадаў, што марыць убачыць выданне кнігі на мове таго Краю, за незалежнасць якога са зброяй у руках змагаліся яго продкі. Я паабяцаў зрабіць усё магчымае, каб тая мара спраўдзілася.

З таго часу шмат вады сплыло ў афрыканскіх і беларускіх рэках. У 2004 годзе Яўстах Севярын Сапега пакінуў гэты свет, паспеўшы даслаць нам з Валянцінам па асобніку сваіх мемуараў, дзе апісана і падарожжа па Гродзеншчыне ды Брэстчыне. Тыя мемуары таксама чакаюць на сустрэчу з варштатам Скарыны, бо ў іх – пераважна пра жыццё ў міжваеннай Заходняй Беларусі.

Пакуль жа да чытача прыйшоў беларускі варыянт “Domu Sapieżyńskiego” – “Гісторыя Сапегаў: жыццяпісы, маёнткі, фундацыі”. Гэта своеасаблівая Сапегаўская энцыклапедыя, напісаная вядомымі польскімі гісторыкамі. У ёй – падрабязныя біяграфіі найбольш слынных прадстаўнікоў роду (іх ажно 85), апісанні маёнткаў (іх налічваецца 72) і фундацый – пераважна храмаў розных канфесій. Дарэчы, многія з іх захаваліся да нашых дзён, напрыклад, Троіцкі касцёл у Ружанах, Троіцкая царква ў Быхаве, касцёл і кляштар бернардзінак у Гродне.

Многія з тых 85 Сапегаў вартыя адмысловых даследаванняў – як прыхільнікі незалежнасці Вялікага Княства і творцы ягонай гісторыі. Напрыклад, Францішак Сапега (прапрадзед князя-“афрыканца”) – паплечнік Тадэвуша Касцюшкі, шукальнік прыгод і заўзяты падарожнік, якому, аднак, у Пецярбургу было захаладна, у Лісабоне – загорача, у Лондане – завільготна, у Варшаве і Вільні бракавала адпаведнай кампаніі. Усё, чаго князю не хапала ў еўрапейскіх сталіцах, ён знаходзіў, дайце веры, у Дзярэчыне, у сваім палацы. Там князь бавіў час з маладой жонкай Пелагеяй з Патоцкіх, якую за любоў да тэатра ў магнацкіх салонах называлі “дзярэчынскай Тэрпсіхорай”.

Сапегаўская зорка высока ззяла над Краем і вабіла да сябе французскіх донжуанаў, італьянскіх артыстаў, нямецкіх прадпрымальнікаў і турэцкіх гандляроў коньмі, якія прыганялі цэлыя табуны на знакаміты Ганненскі кірмаш у Зэльве, што ладзіўся штогод з лёгкай рукі яшчэ аднаго Сапегі – Антонія Казіміра. Прыемна, што ўжо ў наш час той кірмаш адноўлены, і штолета зацішная Зэльва ажывае, прымаючы, як і трыста гадоў таму, тысячы гасцей з усіх валасцей.

Сапегі сапраўды адчувалі сябе патрыётамі Княства, шмат зрабілі для яго эканамічнага і палітычнага ўмацавання (адзін Літоўскі Статут чаго варты!). Даходзіла да таго, што Сапегі за ўласныя грошы (іх часам не хапала ў каралеўскай казне) утрымлівалі дзяржаўнае войска на ўсходняй мяжы, баронячы супольную дзяржаву Рэч Паспалітую ад агрэсіўнай Масковіі.

Чытач кнігі “Гісторыя Сапегаў” заўважыць сапегаўскі патрыятызм і ў гэткай “дробязі”, як імёны. Князі называлі сваіх сыноў не толькі на заморскі лад, але і Алесямі ды Міхасямі, а дочак – Тэклямі, Гальшкамі, Тадорамі, Анэлямі ды Васілісамі...

Такім чынам, з трох мараў Яўстаха Севярына Сапегі цалкам спраўдзілася пакуль толькі адна – выйшла па-беларуску галоўная праца яго жыцця (дзякуючы Уладзіміру Кісламу і Таццяне Марціноўскай з кампаніі “Wargaming”). Другая мара збылася напалову – Ружанскі палац часткова адноўлены, там дзейнічае гістарычны музей. Трэцяя мара таксама мае шанец спраўдзіцца – прывезлі ж нядаўна на радзіму прах княгіні Магдалены Радзівіл.

Памятаючы пра заслугі Сапегаў у дзяржаўным будаўніцтве і станаўленні Мінска, аўтар гэтых радкоў звярнуўся ў Музей гісторыі сталіцы – каб правесці там прэзентацыю “сапегаўскай энцыклапедыі”. Адміністрацыя музея доўга думала і нарэшце адмовіла: маўляў, не наш профіль. Дзіўная адмова. Бо ажно пяцёра Сапегаў у розны час былі мінскімі ваяводамі...

**Міхась СКОБЛА.**

*Прэзентацыя кнігі “Гісторыя Сапегаў: жыццяпісы, маёнткі, фундацыі” адбудзецца **24 лістапада** ў сталічнай кавярні **“Грай”** (вул.Інтэрнацыянальная, 33; за Палацам Рэспублікі). Другі паверх, зала Алены Кіш, уваход вольны. Пачатак – 18.00.*

SOS!

# «На абяцаную сярэднюю зарплату ў 1000 рублёў даўно ўжо не спадзяёмся...»

Некалькі месяцаў таму на сайце Генеральнай пракуратуры з’явілася паведамленне: у Мінскай вобласці па стане на 1 верасня зафіксавана запазычанасць па заработнай плаце ў 12 арганізацыях Вілейскага, Валожынскага, Дзяржынскага, Мінскага, Маладзечанскага, Смалявіцкага і Салігорскага раёнаў на агульную суму 751,7 тысячы рублёў.

Здавалася б, сітуацыя далёкая ад крытычнай. Аднак крыніцы «Народнай Волі» запэўніваюць, што ў пракуратуры выдалі адну з самых пазітыўных карцін, якая назіралася ў вобласці за апошні час. Так, чытачы «Народнай Волі» настойліва рэкамендавалі звярнуць увагу на Бярэзінскі раён, які ў спісе не фігураваў, але дзе, паводле іх слоў, пасля паведамлення пракуратуры быццам бы затрымалі выплату заробкаў за верасень адразу на трох прадпрыемствах.

«*Тут ніякага сакрэту няма, мы афіцыйна зрабілі справаздачу аб тым, што за верасень не змаглі своечасова аддаць зарплату*», – паведамілі «Народнай Волі» ў адміністрацыі **ДРБУ №192**, філіяле «Мінскаблдарбуду», дзе займаюцца будаўніцтвам і рамонтам дарог.

Там заявілі, што змаглі разлічыцца за верасень з усімі работнікамі 3 лістапада.

«*Затрымка здарылася з-за недахопу грашовых сродкаў. Што будзе з заробкамі за кастрычнік, цяжка сказаць, у нас вялікая крэдыторская запазычанасць. Але, вядома, з боку адміністрацыі робіцца ўсё, каб зарплата была выплачана своечасова*», – канстатавалі ў ДРБУ №192.

У **ААТ «Бярэзінскі райаграсэрвіс»**, адным з найбуйнейшых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў раёна, інфармацыю пра праблемы з выплатай заробкаў за верасень не пацвердзілі, але прызналі, што затрымкі здараліся раней.

«*Але каб яны расцягваліся на месяц-два – такога не было, усе выплаты з часам закрывалі. Затрымкі здараюцца рэдка, з боку пракуратуры вядзецца пастаянны кантроль. Думаем, зарплата за кастрычнік будзе выплачана своечасова*», – распавялі ў «Бярэзінскім райаграсэрвісе».

У адміністрацыі **Перасоўнай механізаванай калоны №182** УП «Мінскаблсельбуд», якая займаецца будаўнічымі і мантажнымі работамі, паведамілі, што затрымка з выплатай заробкаў за верасень была мінімальнай і праблема вырашана.

«*Заробкі за кастрычнік ужо даём патрошку*», – паведаміла прадстаўнік прадпрыемства.

Крыніца, знаёмая з сітуацыяй у Бярэзінскім раёне, растлумачыла «Народнай Волі»: «*Затрымкі з выплатай заробкаў – гэта не асобныя праблемы прадпрыемстваў. Усё ўзаемазвязана, прычыны хаваюцца ў несвоечасовасці плацяжоў паміж гаспадарчымі суб’ектамі, недахопе фінансавання, дэбіторскай і крэдыторскай запазычанасці. Праблем назапасілася вельмі шмат*».

Чытачы «Народнай Волі» распавялі, як вымушаны выжываць у гэтых умовах:

«*Людзі ў асноўным атрымліваюць каля 300 рублёў. На абяцаную сярэднюю зарплату ў 1000 рублёў да канца года даўно ўжо не спадзяёмся, аддайце своечасова хоць бы нашы няшчасныя 300. Калі затрымліваюць выплату заробкаў, кожны круціцца як можа. Добра тым, у каго муж або жонка атрымліваюць грошы своечасова. Шмат каму дапамагаюць састарэлыя бацькі – выплату пенсій ніколі не затрымліваюць. Горш тым, хто жыве ў Беразіно ў кватэрах: трэба аплаціць камуналку, добра калі ёсць лецішча, дзе можна вырошчваць агародніну, але жыўнасць трымаць не будзеш – няма ні курэй, ні свіней. Увогуле жыць, вядома, стала вельмі цяжка, эканоміць даводзіцца на ўсім, новую вопратку практычна не купляем*».

Што звяртае на сябе ўвагу ў няпростай сітуацыі: работнікі, якім не выплачваюць своечасова заробкі як у Бярэзінскім, так і ў іншых раёнах, не пратэстуюць супраць гэтага адкрыта. Сацыёлаг **Сяргей Нікалюк** у каментарыі «Народнай Волі» патлумачыў гэта так:

«*Адсутнасць адкрытага пратэсту – звычайныя для беларусаў паводзіны. Існуе маса анекдотаў з нагоды так званай беларускай талерантнасці. Справа ў тым, што ў нашай сістэме большасць людзей максімальна залежаць ад дзяржавы. Дзяржава з’яўляецца для іх галоўным працадаўцам і адзіным гарантам сацыяльных праграм. Жыхары перыферыі ў асноўным людзі немаладыя і не маюць сучаснай адукацыі. У адрозненне ад Мінска іх шанцы на знаходжанне новай працы мінімальныя. Ім цяжка выжыць без дапамогі дзяржавы, адпаведна яны цярпяць праблемы, што ўзнікаюць. У людзей няма выбару, таму яны асабліва і не абураюцца*».

**Сяргей ФАЛЕЙЧЫК.**

*Бярэзінскі раён*

